# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г.

Субота, 4 чэрвеня 1994 года

№58 (10758)

Цана 100 руб.


## З ВАРШАВЫ З ПАГАДНЕННЕМ

Днямі ў Варшаве пабывала дэлегацыя Мінскай вобласці на чале са старшынёй аблвыканкома А.І.Цішкевічам. У ходзе перагавораў з кіраўніцтвам Варшаўскага ваяводства вызначаны сферы супрацоўніцтва паміж двума сталічнымі рэгіёнамі. А.І.Цішкевічам і ваяводам Б.Ястшэмбскім падпісана пагадненне, якім прадугледжаны напрамкі супрацоўніцтва і абмену: ахова здароўя, рэгіянальнае развіццё, ахова навакольнага асяроддзя, навука, культура. Дасягнутыя вынікі стануць прадметам увагі на канферэнцыях, якія будуць праводзіцца не радзей аднаго разу ў два гады на прынцыпах узаемнасці.

## ЧЭРВЕНЬ: ЦЭНЫ НЕ СКОКНУЛІ

У апошнія майскія дні па рэспубліцы паўзлі чуткі аб чарговым скачку цэн. Сёння многіх небагатых людзей можна супакоіць: рэзкага павышэння цэн на мяса не адбылося, а фіксаваныя расцэнкі на малако і хлеб і ўвогуле засталіся ранейшыя.

Як паведамілі карэспандэнту РІДа ў Дэпартаменце цэн пры Дзяржэканомплане, павышэнне цэн на гэтыя віды прадуктаў і на гарэлку ў бліжэйшы час не распрацоўваецца. А гэта значыць, два-тры тыдні мы будзем купляць прадукты па старых цэнах.

Чуткі аб тым, што масла "падскочыць" да 100 тыс.рублёў за 1 кг, аказаліся вельмі перабольшаныя. Ва ўсіх гарадах рэспублікі вартасная планка ўзнялася да 24—25 тысяч. А Мінск, захаваўшы ў сховішчах масла яшчэ з красавіка, прадае і зусім па 12—13 тыс.за кілаграм. Дарэчы, гэта толькі рэшткі...

Што датычыць павышэння мінімальнай зарплаты, чуткі мелі пад сабой глебу. Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі распрацавала і ўнесла прапанову аб павышэнні мінімальнай зарплаты да 100 тыс.рублёў. Але Пагаджальная камісія прыняла рашэнне ў чэрвені ўсё пакінуць на сваіх месцах. Так што "ў Багдадзе ўсё спакойна".

*РІД.*

ФАКТЫ ПАДЗЕІ АРГУМЕНТЫ МЕРКАВАННІ

## АФІЦЫЙНАЕ АДКРЫЦЦЁ БУДОЎЛІ

**Ніколі яшчэ пасёлак Чысць не прымаў такіх высокіх гасцей, як заўчора. Сюды прыехалі намеснік Старшыні Савета Міністраў С.В.Брыль, міністр абароны рэспублікі П.П.Казлоўскі, паслы Германіі і Турцыі, кіраўнікі кансорцыума, у які ўваходзяць германскія і турэцкія фірмы.**

Як ужо не раз паведамляла "Мінская праўда", у Чысці на базе акцыянернага таварыства "Забудова" ўзводзіцца домабудаўнічы камбінат, які ўключае пяць заводаў — жалезабетонных канструкцый, па выпуску чарапіцы, вапны, сухіх сумесей і сталярных вырабаў. Магутнасці яго — адна тысяча катэджаў у год.

Паяўленне камбіната ў Чысці звязана з вывадам нашых войск з Германіі. Аб'ём інвестыцый з нямецкага боку — 212 мільёнаў марак. Работы вядуць нямецкія фірмы, турэцкая "Энка" і "Забудова". Многае ўжо зроблена. А заўчора ва ўрачыстай абстаноўцы было афіцыйнае адкрыццё будоўлі.

Як заўсёды ў такіх выпадках, ваенным аркестрам былі выкананы гімны Германіі, Турцыі, Расіі і Беларусі. Капсулу пад галоўную тэхналагічную лінію па вырабу элементаў дома заклаў міністр абароны П.П.Казлоўскі. У ёй, між іншым, беларускія грошы ўсіх вартасцей, нямецкія манеты, беларускія газеты, у тым ліку "Мінская праўда", за 2 чэрвеня — з гэтага дня пачаліся работы на ўзвядзенні Чысцінскага домабудаўнічага камбіната. У строй дзеючых, як прадугледжана кантрактам, ён увойдзе ў чацвёртым квартале 1995 года. Як заявілі на ўрачыстасцях, першую прадукцыю атрымаюць у жніўні.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

## "СІМЕНС", "ФІЛІПС" І ІНШЫЯ

Пад адным дахам — у Рэспубліканскім выставачным цэнтры па вуліцы Янкі Купалы ў Мінску "збяруцца" 7-10 чэрвеня, бадай, самыя славутыя фірмы свету, якія вызначаюць "моду" ў галіне вылічальнай тэхнікі і інфарматыкі. Нават неспецыялісту пра многае могуць сказаць толькі іх назвы: "Філіпс", "Сіменс", "Алівеці"... Ці ІКЛ — буйнейшы брытанскі камп'ютэрны канцэрн, які дзейнічае ў 80 краінах. Камерцыйныя прапановы яго маюць комплексны характар: кампю'тэрнае абсталяванне, сродкі сістэмнага праграміравання, сервіс, кансультацыі і навучанне.

Выстаўка нездарма праходзіць у Мінску, бо ў рэспубліцы яшчэ нядаўна выраблялася 60 працэнтаў ЭВМ ад саюзнай вытворчасці. Яна заклікана дапамагчы хутчэйшаму ўкараненню лепшых здабыткаў заходніх фірм на беларускіх прадпрыемствах з тым, каб і нам мець перадавую тэхніку.

Дарэчы, сумеснае беларуска-польскае прадпрыемства "Белсафбанк" сумесна з канцэрнам ІКЛ укараняюць сістэму безнаяўных плацяжоў у гандлі ў Жодзіне і Наваполацку — так званыя электронныя грошы.

## УСЕНЯ ЎНЁС МІЛЬЁН. І ПАДАРЫЎ КНІГІ

Нават дождж не змог сарваць свята ў Старых Дарогах, што было прысвечана Міжнароднаму дню абароны дзяцей. Каля чатырох тысяч старадарожцаў прыйшлі на цэнтральную плошчу горада. З задавальненнем глядзелі яны гала-канцэрт. У ім прынялі ўдзел кампазітары народны артыст СССР Ігар Лучанок і заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Эдуард Зарыцкі. Песні, прысвечаныя дзецям і 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, выконвалі заслужаныя артысты рэспублікі Людміла Кравёнак, Іван Краснадубскі, Віктар Стральчэня, Уладзімір Правалінскі і іншыя. Парадавалі гледачоў сваімі выступленнямі і землякі — народны ансамбль народнай музыкі "Таліца" раённага Дома культуры і вучні сярэдняй школы №4.

Але гэта было не проста свята, а яшчэ і дабрачынная акцыя ў фонд дапамогі дзецям-сіротам, інвалідам, з маламаёмных сем"яў. У ёй удзельнічалі многія прадпрыемствы і арганізацыі. Людзі кідалі грошы ў урну, якая стаяла прама на плошчы. Сабрана каля 30 мільёнаў рублёў. Буйныя ўклады ўнеслі: сумеснае беларуска-брытанскае прадпрыемства "Белбрыт" і лясгас —па 5, райпо — 3, райаграпрамтэхніка — 2 мільёны рублёў.

Народны ансамбль "Таліца" і галоўны рэдактар газеты "Частный детектив" Аляксандр Усеня / ён, дарэчы, родам са Старадарожчыны/ — па мільёну рублёў. Аляксандр Мікалаевіч таксама падарыў дзіцячаму дому падборку сваіх кніг.

*Наталля ТУМАР.*
*г.Старыя Дарогі.*

## АМАТАРАМ ВОСТРЫХ АДЧУВАННЯЎ

Чаго ў нас большае, дык гэта ўсялякіх выданняў. На любы чытацкі густ. Неўзабаве аматары вострых адчуванняў, летуценнікі могуць пазнаёміцца з новым часопісам "Детектив. Приключения. Фантастика". Як расказвае яго галоўны рэдактар Казімір Канус, выданне мяркуе змяшчаць на сваіх старонках лепшае з сусветнай літаратуры прыгодніцкага жанру. Яно будзе імкнуцца дагадзіць і тым, хто цікавіцца астралогіяй, каго прыцягваюць забаўляльныя сюжэты, меладрама.

Падпісная цана на месяц — 5 тысяч рублёў.

## БЛАГАСЛАВЁНЫ БУДЗЬ, СІРОЦКІ ДОМ



*Нялёгкі лёс у сіраты, асабліва ў наш час шалёных цэн, беспрацоўя, сацыяльнай нестабільнасці. Шмат намаганняў прыкладае дзяржава, каб аблегчыць становішча, гарантаваць такім дзецям выхаванне, адукацыю і падрыхтоўку да ўступлення ў дарослае жыццё.*

*Валожынская спецыялізаваная школа-інтэрнат стала сапраўднай бацькоўскай хатай для многіх маленькіх сірот. Грамадскія арганізацыі горада і раёна, прадпрыемствы дапамагаюць школе, каб на сціплыя дзяржаўныя сродкі забяспечыць дзецям нармальныя ўмовы.*

***На здымках:** тут наш дом; шасцікласнік Алёша **Дзямідчык** прызнаны майстар разьбы па дрэву; урок працы вядзе настаўнік Мікалай Іванавіч **Малянковіч**.*

*Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.*





## ГЕРОЙ — ДЛЯ РАДЗІМЫ, ДЛЯ МАЦІ — СЫН...

Адной з новых вуліц г.п.Узда прысвоена імя Астравуха. Маёра Уладзіміра Палікарпавіча Астравуха, які па-геройску загінуў у Афганістане. Так сведчыць сціплы надпіс на мемарыяльнай дошцы. Герой — для Радзімы, а для маці — сын. І хоць прайшло з той чорнай гадзіны, як прывезлі цела яе сына ў родныя Макавішчы, ужо дзесяць гадоў, кожны дзянёк наведвае матуля сынаву магілку. Нічым не суцешыць боль яе, не высушыць слёз. І ўсё ж...

Гэтымі днямі ў хату Марыі Канстанцінаўны Астравух завіталі старшыня Уздзенскага гарпасялковага Савета дэпутатаў М.Лапотка, яго намеснік Ж.Кашэўская і старшыня Ліцвянскага сельсавета Г.Дарашкевіч. Яны паведамілі маці аб увекавечанні памяці сына ў назве новай вуліцы. Пакінулі сціплы падарунак. І галоўнае — узялася мясцовая ўлада пры падтрымцы райвыканкома зманціраваць у доме Марыі Канстанцінаўны газавае ацяпленне.

А за некалькі дзён да гэтага візіту М.К.Астравух пабывала ў Мінскім суворaўскім вучылішчы, якое калісьці заканчваў яе сын. Яе запрасілі туды на ўрачыстае адкрыццё Кутка памяці. Загадам міністра абароны рэспублікі Уладзімір Астравух за воінскую доблесць, мужнасць і гераізм, праяўленыя пры выкананні воінскага абавязку, навечна залічаны ў спісы асабовага саставу 4-й роты вучылішча. Імя ўздзенца-героя будзе штодня гучаць на вячэрняй паверцы...

*Святлана МІХАЙЛОЎСКАЯ.*
*Уздзенскі раён.*

## ДЗЕНЬ ШКОЛЫ Ў РАЁНЕ

На Клеччыне прайшоў Дзень школы. Прадстаўнікі ўсіх навучальных устаноў сабраліся на плошчы горада, што ля новага Дома культуры. Тут працаваў кірмаш, на якім можна было набыць прадукцыю, выраблёную ў школах: расаду агародніны, кухонныя прылады, карнізы на вокны і дзверы, кампоты і многае іншае. Гэты тавар ахвотна набывалі жыхары раёна. Затым у гарадскім Доме культуры калектыў сярэдняй школы № 3 выступіў з цікавай праграмай, прысвечанай адраджэнню гістарычнай і культурнай спадчыны роднай Бацькаўшчыны. Больш за 200 настаўнікаў і вучняў гэтай школы прадэманстравалі свае таленты. З цікавасцю прысутныя глядзелі спектакль па п"есе А.Макаёнка "Трыбунал". Вялікае ўражанне на кляччан зрабіў і заключны канцэрт, у якім мелодыі розных вёсак раёна зліваліся ў суладныя, чароўныя песні.

Падведзены вынікі работы школ. Калектыву СШ № 3 уручаны каляровы тэлевізар, а сярэдняй школе № 1 горада і Заастравецкай, якім прысуджана 2-е месца, — халадзільнікі. Трэцяе месца заваявала Янавіцкая СШ. Аб гэтым доўга будзе нагадваць магнітафон, які калектыў атрымаў на Дні школы.

*/Наш кар./.*

■ Прэзідэнцкі марафон

## Вячаслаў Кебіч у Нясвіжы

Такія высокія госці ў Нясвіжы бываюць не часта. Разам з кандыдатам у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, Старшынёй Саўміна В.Кебічам прыехалі міністры: замежных спраў — П.Краўчанка, культуры і друку — А.Бутэвіч, старшыня аблвыканкома А.Цішкевіч і іншыя афіцыйныя асобы. За некалькі гадзін перад гэтым сюды прыбыла група дзеячаў культуры — пісьменнікаў, артыстаў, мастакоў. Усе разам яны агледзелі палацава-паркавы ансамбль. Як вядома, рашэннем Саўміна ў Нясвіжы ствараецца нацыянальны гісторыка-культурны запаведнік. Мяркуецца, што ў будучым тут размесціцца ўрадавая рэзідэнцыя. В.Кебіч падкрэсліў, што сёння надзвычай важна па прыкладу гэтага горада захоўваць і аднаўляць усю тую спадчыну, якую пакінулі нам нашчадкі.

Затым размова працягвалася ў клубе акцыянернага таварыства "Новае жыццё". На сустрэчы былі кіраўнікі гаспадарак, прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый раёна. В.Кебіч выступіў з прамовай. Ён зазначыў, у прыватнасці: такі сход "паэтаў, мастакоў, хлеборобаў і палітыкаў" праводзіцца не выпадкова. Усім нам сёння трэба клапаціцца аб тым, як выйсці з духоўнага і эканамічнага крызісу, змагацца за паляпшэнне жыцця народа, вяртанне спакою і стабільнасці ў грамадстве.

Значную частку сваёй прамовы Старшыня Саўміна прысвяціў праблемам аграпрамысловага комплексу. Сказаў, што яго перадвыбарная праграма будзе надрукавана, але шэраг яе аспектаў акрэсліў: ён выступае за цесную сувязь з Расіяй, зніжэнне інфляцыі, за парытэт цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю і г.д.

Гаворачы аб падтрымцы вёскі ў гэты складаны час, В.Кебіч паведаміў, што ўрад выдзяляў сродкі на веснавую сяўбу, знойдзе і на ўборку ўраджаю. Рэспубліка ў хуткім часе атрымае з Расіі 20 млн.тон нафты, грашовыя крэдыты. Большая частка гэтых рэсурсаў пойдзе ў вёску.

Падрабязна спыніўся кандыдат у Прэзідэнты на рэфармацыі калгаснай сістэмы. Ён лічыць, што павінны развівацца ўсе формы ўласнасці на зямлю. Няхай самі людзі выбіраюць, што для іх лепш — акцыянерныя таварыствы ці кааператывы, агракамбінаты ці фермерства. Важна, каб вёска давала дзяржаве якасную прадукцыю.

Адказваючы на пытанне, чаму існуе такая неразбярыха ў падатковай палітыцы, В.Кебіч сказаў, што ў гэтай справе мяркуецца навесці ў бліжэйшы час парадак. Ён асабіста выступае за два віды падаткаў: на зямлю і на маёмасць.

Бадай, не ўпершыню Старшыні Саўміна давялося адказваць на такія балючыя пытанні, як сацыяльная абарона малазабяспечаных слаёў насельніцтва, павышэнне зарплаты "бюджэтнікам". Усе гэтыя праблемы, зазначыў В.Кебіч, урад бачыць і працуе над іх вырашэннем.

Прысутныя з задавальненнем успрынялі паведамленні, што тыя грошы, якія "згарэлі" на ашчадных кніжках, будуць вернуты насельніцтву з улікам інфляцыі.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

## Не апячыся, як на перабудове

***Сёння паўсюдна людзі абмяркоўваюць маючыя адбыцца выбары першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусі. Думкі і меркаванні самыя розныя. Вось некаторыя з іх.***

**Юрый Сяргееў, інжынер газавай кацельні калгаса "Нясвіжскі":**

Мне ў многім імпануе палітыка В.Ф.Кебіча. Лічу, што адзіная рублёвая зона з Расіяй — гэта жыццёва важная і неадкладная задача. Толькі вырашаць яе трэба так, каб народ у хуткім часе адчуў стабільнасць эканомікі. Пакуль што наш прэм'ер дае шмат абяцанняў. Відаць, і яго каманда не заўсёды трымае руку на пульсе часу. Няўжо там не бачаць, што многія каштоўныя думкі, выказаныя "наверсе", так і застаюцца думкамі?

Возьмем гандаль. Гэта ж пародыя: накруткі на тавары і прадукты робяць іх недасягальнымі для простага пакупніка. А спекуляцыя? Дзе, у якой краіне яна расцвітае такім буйным цветам? Камерсанты перахопліваюць "хадавыя" тавары і выкладваюць іх у сваіх ларках. Паспрабуй купі сёння дзіцяці шакаладку, банан, апельсін. Тысячы і дзесяткі тысяч рублёў каштуюць. Дзе набрацца столькі грошай?

Хочацца бачыць Прэзідэнтам рэспублікі чалавека высокай кампетэнцыі, які б хварэў душой за народ. І каб менш пустой балбатні было. Як у Клінтана ці Мітэрана.

**Святлана Мазурык, урач-тэрапеўт цэнтральнай раённай бальніцы:**

У мяне сціскаецца сэрца, калі на прыём прыходзяць хворыя людзі, а мы не можам, як раней, выпісаць неабходныя лякарствы. Хто пра гэта думае там, у сталіцы? Колькі разоў даводзілася чуць, што ўрад і парламент "робяць" захады па вырашэнню медыцынскіх праблем".

Думаецца, што першы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь павінен звярнуць асаблівую ўвагу на здароўе нацыі. Нават у пасляваенныя гады не было такога, каб дзеці ў многіх сем'ях месяцамі не бачылі мяса, вітамінаў, іншых неабходных прадуктаў.

А хто сёння думае пра маладыя сем'і? Клапоцімся пра інвалідаў, пенсіянераў (і гэта вельмі правільна). А чаму "на абочыне" застаюцца тыя, каму 18—25 гадоў? Як ім пабудаваць дом? За якія грошы купіць ложак, дзіцячую каляску, прас?.. Мы досыць наслухаліся пустых абяцанняў. Перакрэслілі асновы сацыялізму (дык тады хоць бедны чалавек мог спадзявацца на камунальнае жыллё, на танныя лякарствы і г.д.). Паспрабуй цяпер з новымі дэмакратамі вырашыць такія пытанні. Ніхто і слухаць не хоча.

Я ўважліва прыслухоўваюся да праграм прэтэндэнтаў на высокую пасаду Прэзідэнта рэспублікі. Пакуль што яшчэ не вырашыла, за каго аддам голас.

**Іван Віценчык, член калгаса імя Леніна:**

Хочаш, не хочаш, а нейтральным да выбараў не будзеш. Друк, радыё, тэлебачанне, ды і ўся наша паўсядзёнка "ўцягваюць" у гэтую арбіту. Што мне сказаць? Я ўсё жыццё на зямлі працую. Ведаю, чым пахне хлеб. Хто б ні быў прэзідэнтам, але разбураць калгасы не варта. Наадварот, селяніну трэба дапамагчы. Цяпер жа з яго здзіраюць сем шкур. За тэхніку, за будматэрыялы, мінеральныя ўгнаенні. Мы пойдзем па свеце з торбаю, калі перакрыем вяскоўцу кісларод. Асобныя кандыдаты крычаць, што трэба да Захаду кінуцца, што там і тэхналогію новую дадуць, і "зялёненькіх" падкінуць.Дудкі! Капіталіст ніколі не захоча, каб побач з ім быў моцны і квітнеючы народ.

Нам, беларусам, самім наканавана наводзіць парадак у сваёй хаце. І як у вялікай сям'і без бацькі ўсё ідзе цераз пень-калоду, так і ў рэспубліцы не будзе парадку, калі на пасаду прэзідэнта выберам крыкуна і дэмагога. Апякліся на "перабудове" і яе "архітэктару" Гарбачове. Цяпер той набіў кішэню капіталам і жыве прыпяваючы, а народы гаруюць.

*(Наш кар.).*

## Программа действий

Кандидат в Президенты от Партии коммунистов Беларуси В.Н.Новиков вместе со своими доверенными лицами провел первую пресс-конференцию. Журналисты задавали самые разные вопросы, но больше всего их интересовало то, каким образом он, если займет высокий государственный пост, будет реализовывать свой главный предвыборный лозунг: возвратить народу то, что у него отняли.

Василий Николаевич заметил, что надо шире и глубже понимать этот призыв компартии, нашедший хороший отзвук в сердцах людей труда. Необходимо в первую очередь, как заметил кандидат в Президенты, вернуть великую державу, дружбу народов, народовластие, те благородные и высокие идеалы, которыми мы жили, словом, возвратить все завоеванное за годы Советской власти. В более узком понимании это означает, что все награбленное и наворованное должно возвращаться народу только посредством правоохранительных органов, по закону.

Это лишь одна из многих острых и неотложных задач, решать которые придется Президенту. Понятно, что в его команде должны быть профессионалы высокого класса. Василий Николаевич сказал, что формирование команды уже состоялось, но он не намерен, став главой государства, заменять всех в правительстве, где есть немало опытных, честных и добросовестных специалистов. Естественно, не обойдется без молодых, подающих большие надежды кадров — с тем, чтобы в руководстве государством сохранялась преемственность.

Что касается кризисной обстановки в республике, то она возникла по вине не коммунистов, а тех реформаторов, которые и ныне продолжают экспериментировать на судьбах людей. Как пойдут дальше реформы? Отвечая на вопрос, как оживить и стабилизировать экономику, доверенное лицо Новикова секретарь ЦК ПКБ С.Карякин однозначно сказал, что некоторые рыночные (читайте — грабительские) реформы надо остановить или пересмотреть, а иные, например, закон о приватизации или ваучеризации, следует вообще свернуть.

Нужно проводить те реформы, которые будут укреплять экономику, повышать жизненный уровень народа и выведут республику в ряды передовых мировых держав.

В этом отношении проведена и ведется кропотливая исследовательская работа экономистами, аналитиками, социологами, с помощью которых выработана научнообоснованная программа действий. Будущий Президент сегодня имеет на руках добротный документ, вселяющий твердую уверенность в повороте к новому курсу — курсу подлинной демократии, социальной справедливости и прогресса.

Возник у присутствовавших и такой вопрос: ПКБ выступала и выступает против введения института президентства, а тут партия сама выдвинула своего кандидата на этот пост. Как понимать подобные утверждения? Василий Николаевич ответил, что линия ПКБ остается неизменной: Президент в Беларуси — инородное тело. 70 лет Беларусь жила без президента и успешно осуществляла грандиозные планы, народная власть вывела республику на высокий уровень экономического и социального развития, а по некоторым показателям государство встало вровень с развитыми капиталистическими странами.

Во-вторых, опыт наших соседей показывает, что те государства, где избраны президенты, ничего не добились в своем развитии, значительно углубился общий кризис, а кое-где возникли кровавые конфликты. Но коль президентство было навязано нашему народу, то пленум ЦК ПКБ решил принять участие в выборах, выдвинуть своего кандидата и, опираясь на поддержку трудящихся, прийти к победе. В последующем ПКБ будет добиваться упразднения этого поста и возрождать подлинную народную власть.

*Анатолий СМОЛЯНКО.*

